Год VI. САКАВІК—КРАСАВІК 1928. Кніжка 1—2 (11—12).




Першы Беларускі Месячнік Сельскай Гаспадаркі.



## Зьмест:



Друк, Я. Левіна. Вільня, Нямецкая 22.

## САХА
Першы Беларускі месячнік сельскай гаспадаркі.

# Неабходнасьць уласных гаспадарчых установаў.

Часопіс „Саха“—гэты першы месячнік сельскай гаспадаркі, далёка яшчэ не адпавядае хаця-бы галоўным патрэбам вёскі, бо наагул у нас на тэрэне Заходняй Беларусі няма адпаведных умоў для разьвіцьця сельска-гаспадарчае працы і пакуль-што праходзіць яна пры страшэнна цяжкіх, ненармальных абставінах. Гаспадарчая часопісь мусіць, апрача асьветнае працы, вясьці яшчэ і працу арганізацыйную, але гэтага пакуль-што няма. Гаспадарка ў нас вядзецца старымі прымітыўнымі спосабамі і надзеі на палепшаньне гаспадаркі, на падняцьце яе інтэнсыўнасьці, ня будзе да таго часу, пакуль ўся Заходняя Беларусь не пакрыецца сеткаю сваіх беларускіх гаспадарчых арганізацыяў, ці ня будзе праведзена ў нас беларусізацыя дзяржаўных гаспадарчых установаў.

Істнуюць у нас так званыя „Kółka Rolnicze“, але яны замест таго, каб уцягнуць і заахвоціць да працы ў іх беларускае насяленьне, баяцца ўсяго беларускага, і знаходзяцца фактычна ў руках польскіх асаднікаў і мяйсцовае шляхты. Ад чалавека, які называе сябе беларусам, яны стараюцца адгарадзіцца як ад зачумлёнага, і зусім зразумела, што пры такіх абставінах гэтыя арганізацыі ня могуць дасягнуць жаданых мэтаў, ня гледзячы на вялікую грашовую дапамогу з боку ўраду. Сельская гаспадарка ў нас такім чынам пазбаўлена усякае агранамічнае помачы, і вядзе далей свае гаротнае істнаваньне.

На тэрэне Заход. Беларусі ёсьць некалькі ніжэйшых гаспадарчых школаў, але яны пустуюць, у поўным значэньні гэтага слова, і мы перакананы, што калі-б у гэтых школах вяліся-б выклады ў зразумелай сялянству, беларускай мове, то асьветная праца гэтых школаў стала-б такім чынам на здаровы жыцьцёвы шлях і дала-б карысныя вынікі. Польскія гаспадарчыя арганізацыі ня лічацца з фактам нацыянальнай сьвядомасьці беларускіх сялян і надалей хочуць заставацца ізаляванымі. У тых установах, у якіх пачынае праводзіцца ў жыцьцё выбарныя пачаткі, там беларусізацыя ідзе проста этыхійна,—мы гаворым тут аб самаўрадах.

Мы цьвёрда перакананы, што да таго часу, пакуль ня будзе праведзена беларусізацыя іншых установаў і у першую чаргу гаспадарчых (Kółka Rolnicze, Spółdzielni) ня можа быць і мовы аб тым, што гэтыя арганізацыі дасягнуць пастаўленае імі мэты,—падняцьця гаспадарчага стану краю. Гэта магчыма толькі тагды, калі да працы будуць уцягнуты народныя беларускія гушчы, і ў першую чаргу ўсе здаровыя і найбольш энэргічныя сілы нашага народу. У кожным выпадку пытаньне аб падняцьці эканамічнага стану нашага народу мусіць быць вырашана тым ці іншым спосабам, і калі дзяржаўныя гаспадарчыя ўстановы ня вырашаць пытаньня (ня толькі прынцыпова) аб іх беларусізацыя ў шырокім маштабе, то наш народ сам створыць свае ўласныя беларускія гаспадарчыя арганізацыі, хаця б і прышлося гэтым установам нараджацца ў вельмі цяжкіх абставінах.

Нацыянальнае ўсьведамленьне вёскі і тая стыхійная беларусізацыя гаспадар. установаў (самаўрады) дае нашай часопісі надзею на тое, што яна згуртуе каля сябе ўсе найбольш здольныя і энэргічныя сілы, зьнішчыць свае недахопы, як сялянскай сельска-гаспадарчай часопісі, палепшыць яе зьмест, павялічыць тыраж і далей будзе праводзіць цяжкую і адказную працу пашырэньня сярод тысячаў сялян культурных мэтадаў гаспадараваньня і будзе як-бы галоўным цэнтрам усіх гаспадарчых беларускіх установаў, у паўстаньні якіх у хуткім часе мы не сумляваемся.

Польскія-ж гаспадарчыя ўстановы мусяць гэта каардынальнае пытаньне аб беларусізацыі паставіць на парадак дзенны, наскольки яны хочуць лічыцца ў уласным інтарэсе, з жалезнымі законамі эканомікі.

Мы ўжо мелі даволі часу перакана цца ў тым, што нездаровы польскі нацыяналізм, які пануе ня толькі, ў палітычных, але і ў гаспадарчых галінах жыцьця, недазволіць ім пайсьці на кампраміс, а таму мы самі мусімо, як найхутчэй, пастарацца стварыць свае ўстановы, спадзяючыся толькі на ўласныя сілы.

---

# Што трэба знаць кожнаму селяніну.

Сельская гаспадарка даўна ўжо перастала быць работай „на авось", яна сталася навукай, дзе кожная рэч, кожнае зьявішча мае свае прычыны. Чым гаспадар больш уяўляе сабе пра гэтыя прычыны і зьявішча, тым больш ён пэўны ў памыснасьці сваей працы і тым менш працуе „на шчасьце". Вось дзеля чаго гаспадару нашага часу, каб выбіцца з убоства трэба ведаць тое, з чым яму найчасьцей прыходзіцца сутыкацца. Расьлінка, якую ён узрашчвае на полі і якая займае цалком яго ўвагу і мусіць быць тэй рэч'ю, якую перш-на-перш трэба селяніну выўчыць.

**Жыцьцё** нашых расьлін можна падзяліць на некалькі ўзростаў: **прарастаньне** — ад пасеву да першых зялёных лісткоў; **разрост** — ад першых лісткоў да першых красак; **красаваньне** — ад першых красак да завязі і **даспеваньне** — ад завязі да збору пладоў. Пасьля таго, як зярнё дасьпее нашы палявыя расьліны заміраюць. Каб ведаць як даглядаць і гадаваць расьліну, мы павінны разглядзець, што трэба расьліне ад прарастаньня да заміраньня.

**Насеньне**. Кожнае насеньне мае ў сабе у зачатках цэлую расьліну з карэньнем, сьцяблом і лісьцямі, з якіх вырастаюць потым усе часткі расьліны. У насеньні толькі зародыш, каб з насеньня выйшла расьліна, трэба ўсім часткам зародыша павялічыцца — разрасьціся. Большая частка кожнага насеньня ўтворана з белага мучністага цела, каторае называецца **насенным бялком** і каторае зьяўляецца спажывай для маладой расьлінкі, пакуль яна не падрасьце.
**Прарастаньне.** Для прарастаньня нясеньня трэба яму **вільгаці,**

**цяпла і паветра.** Дзеля гэтага нам становіцца зразумелым, што насеньне ня можна сеяць у сухую зямлю, вельмі рана вясной і позна ўвосень, а таксама закрываць тоўста зямлёй. Прарастаючы, насеньне пушчае ўніз карашок а на паверхню расток. Некаторыя расьлінкі разам з растком выносяць на паверхню **глуздкі** (палавінкі), што замяняюць на першых парах лісткі расьлінцы. Вось, каб выбіцца сьцяблу на паверхню, трэба насеньню ляжаць ня глыбока і ў мягкай зямельцы, бо ў праціўным выпадку часта насеньне нездалее вынясьці на паверхню надземных частак.

Зразумела, што прарастаць можа толькі тое насеньне, якое не страціла ўсходласьці, г. зн., ў якім яшчэ тлее жыцьцё. Памершае насеньне не прарасьце, хоць-бы мы далі яму найлепшыя ўмовы для гэтага.

Калі на маладых расьлінках пакажуцца зялёныя лісьця, дык тагды перастае карміцца спажывай насеньня і пачынае жыць самастойна.

**Разрост.** З маленькага зярняці расьліна разрастаецца у сотню, тысячу і таго больш разоў за тое зярнё, што мы пасеялі.

Скуль-жа ўзяла расьліна матэр'ял на будову свайго цела? Перш думалі, што ўвесь гэты матэр'ял бярэцца з зямлі, але навуковымі дасьледамі з часам даведзена, што з зямлі расьлінка бярэ пажывін мала, а больш усяго з паветру. Тая частка, што гарыць і ўцякае дымам, бярэцца з паветру пры помачы зялёных лістоў і называецца **арганічнай** масай, а застаўшыся попел—з зямлі і называецца **мінэральнай** часткай расьліны, што дастаўляецца расьліне пры помачы карэньняў.

Хаця арганічнай масы ў расьліне шмат больш чым мінэральнай, але гаспадару прыходзіцца клапаціцца дастаўляць расьліне толькі апошнія, бо ўсяго, што бярэ яна з паветру, там заўсёды ёсьць у дастатку. Ад прысутнасьці гэтых мінэральных частак расьліны ў зямлі залежыць галоўным чынам і ўраджай збожжа.

Арганічную масу расьліны складаюць: крахмал, цукар, алей, белкавіна і інш.

Мінэральную частку ці попел расьліны складаюць: **калі** (паташ), **кальцый** (вапна), **магні**, **жалеза**, а таксама **серка**, **фосфар**, **хлор** і інш. У нашай зямлі больш усяго не хапае **паташу, фосфару, вапны і азоту.**

Вось увага гаспадара і мусіць быць скіравана, каб даць усе гэтыя матэры расьліне, інакш кажучы, угнаіць зямлю гэтымі складнікамі. Толькі тады расьліна можа добра расьці калі побач з цяплом, паветрам, сьветам і вадой, будуць ей дадзены і гэтыя спажывы.

**Красаваньне і сьпеласьць.** Красуюць расьлінкі тады, калі яны ўжо зусім разрасьліся. У адных расьлін краскі відаць здалёку, у другіх, як напрыклад, у нашых хлебавых яны мала прыкметны, бо натура не надзяліла іх ахварбоўкай.

Верхнія лісточкі кветак—гэта толькі вопратка іх, у сярэдзіне-ж іх схаваны самыя галоўныя часткі. Часткі гэтыя дваякія: адны, якія вытвараюць **краскавы пыл**, называюцца **мужчынскімі** органамі, а другія **жаноцкімі** органамі.

У самай сярэдзіне кветак ёсьць тая частка яе, з якой пасьля разьвіваецца насеньне і называецца яна **маткай**. У нізу матка шырэйшая і гэта частка яе называецца **завязьзю.** У завязі бывае адно ці некалькі штук дробненькіх яечак (простым вокам дагледзець іх нельга), з каторых, калі пападзе на іх пылок, вытвараецца зярнё. Яечкі гэтыя і ёсьць жаноцкі орган кветкі. З гэтага мы бачым, што расьліны размнажаюцца таксама, як і жывёла ад злучэньня мужчынскага і жаноцкага семяні.

Пасьля таго, як пачне зярнё наліваць, кветкі вянуць бо яны ўжо не патрэбны для расьліны. У гэтым часе расьліна хоць і мала бярэ з зямлі спажывы, але для сфармаваньня ей патрэбны найкаштаўнейшыя часткі гэтай спажывы.

Калі насеньне дасьпее, сокі ў расьліне разыходзяцца-расьліна замірае, лісьцё адвальваецца, а сьцябло робіцца, цьвёрдым. Дзеля гэтага салома збожа зусім дасьпеўшага, ці сена, скошанае задоўга пасьля красаваньня, мала мае ў сабе спажывы.

**Бабовыя расьліны.** Бабовыя расьліны ці як іх яшчэ называюць матыльковыя (лубін, канюшына, боб, гарох, віка, сэрадэля, дзятлавіна, фасоля і інш.) маюць асаблівую вагу для гаспадара.

Яшчэ ў старажытныя часы заўважылі гаспадары, што пасьля бабовых расьлін збожжа расьце лепш. У канцы мінулага стагодзьдзя знайшлі віноўніка гэтага зьявішча—маленькую істоту, якую звычайным вокам прыкмеціць нельга, а можна бачыць толькі праз спэцыяльны прылад г. зв. мікраскоп. Завуць гэту істоту, якая ёсьць дабрадзеям гаспадара—карнявой бактэрыяй, якая жыве на карэнчыках бабовых расьлін і жывіцца сокам іх і азотам з паветра. З часам гэтыя бактэрыі так множацца, што на тых месцах карэньняў, дзе пасяліліся гэтыя бактэрыі, разьвіваюцца маленькія гузочкі. Як толькі гэтыя гузочкі на расьлінцы зьявяцца, дык яна хутка пачынае расьці, дзякуючы таму, што бактэрыі ўжо здольны даць расьлінцы азот з паветру.

Каб на карэнчыках бабовых расьлін вырасьлі гузочкі, трэба, каб у ральлі былі карнявыя бактэры, бо ў праціўным выпадку бабовая расьлінка ня можа добра расьці. Гэта бывае тады, калі расьлінка сеецца першы раз.

Каб дабыць добрага ўраджаю бабовых расьлін ў першы год, на полі, дзе думаюць сеяць лубін, сэрадэлю, боб, падсеваюць зямлю з таго месца, дзе раней, гэтыя расьліны расьлі. Можна для гэтай-жа самай мэты сабраць карэнчыкаў бабовых расьлін і пры дапамозе іх прышчапіць зямлю бактэрыямі.

**У. Павалковіч.**

---

# Аб рахунковасьці ў сялянскай гаспадарцы.

Мэтай гаспадара зьяўляецца атрыманьне, як можна больш, розных продуктаў, каб потым частку іх спажыць, а другую прадаць і купіць усё неабходнае для сям'і, гаспадаркі, аплаты падаткаў і г. д. Прадаюцца лішкі продуктаў або продукты спэцыяльна для прадажа прызначаныя.

У абодвых выпадках гаспадар павінен добра ведаць, які продукт можа даць яму больш прыбытку, а чым больш гаспадар прадае і купляе, тым лепей ён павінен ведаць сабекошт продукту. Напрыклад, гаспадар прадаваў жыта, бульбу, лён, яйкі, масла і г. д. Ен помніць, колькі за што атрымаў, але зусім няўпэны, які з прададзеных продуктаў даў больш прыбытак, бо гаспадару самому каштавала і жыта, і лён, і масла (ён траціў і працу, і грошы і г. д.). Каб ведаць, які продукт даў больш прыбытку для гэтага патрэбна свае часна запісваць, Яшчэ прыклад: у гаспадарцы ёсьць розная жывёла — коні, каровы, авечкі, сьвіньні, птушкі. Гэта жывёла патрабуе корму, працы па дагляду, будынку і г. д. і дае гаспадарцы розныя продукты (адна карова дае малака больш, другая менш; авечкі разам далі столькі-то воўны і г. д.). А што было выгадней трымаць гаспадару, якая жывёла дае больш ці менш прыбытак-гэта сказаць гаспадару вельмі цяжка. Тут патрэбна было

ацаніць усе атрыманыя ад жывёлы продукты і адкінуць з атрыманае сумы ўсе расходы на жывёлу. Але гаспадар расходаў не можа помніць, тым больш, што падлічэньне прыбытку павінен зрабіць за доўгі час. Такім чынам, мы бачым, што і тут трэба сваячасна вясьці запіс.

Правільны і сваячасны запіс усіх продуктаў, якія дае гаспадарка, і ацэнка іх у грашох, а таксама падлік усіх расходаў і прыбыткаў за год, завецца рахунковасьцю. Рахунковасьць выразна паказвае, якая галіна гаспадаркі больш выгодна перад другой і дае магчымасьць гаспадару зьмены ў гаспадарцы, каб яна была больш прыбытковай. Таксама рахунковасьць дае магчымасьць і аграному высьветліць асобныя адзнакі сялянскай гаспадаркі і паможа яму ў працы. Дзеля таго, каб правільна паставіць рахунковасьць з мэтай атрыманьня пэўных вынікаў, трэба весьці некалькі асобных запісаў у асобных сшытках і ў канцы году падводзіць рахунак усім запісам.

Пачнем разгляд запісаў па галіне *паляводзтва*, куды будуць уваходзіць усе палявыя расьліны, а таксама і гародніна. Тут трэба завесьці два сшыткі: адзін для учоту ўраджаяў і працы, а другі для запісу прыбытку і расходу продуктаў паляводзтва.

Першы сшытак будзе мець такі выгляд:

| Назва палос, кавалкоў г. д. | Чым засеяна і якая плошча | Колькі і якога дадзена гною | Колькі патр. дзен. працы | | Колькі пасеяна пуд. | Колькі атрымана | Колькі намалочана пуд | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | Людзкіх | Конскіх | | | Зярня | Саломы п. | Мяк. пуд. |
| Ніва Забалоцьце | Жыта 1/2 дзес. | Гною 30 ваз. (600 п.) і штуч. ўгнаен. 8 пуд. | 25 (з іх 10 жаноч.) | 6 | 5 | 12 1/2 коп. | 25 | 30 | 2 1/2 |
| Наддачы „вузенькія“ | Бульбы чвэрць дзес. | Ня клалі | 14 (з іх 4 жаноч.) | 10 | 20 | — | 230 | — | · |

**Другі спытак: прыбытак і расход продуктаў паляводзтва**

| Назва продуктаў | Колькі атрымана пуд. | колькі куплена, калі і па якой цане | Куды зрасходавана | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | Спажыта сям'ей | Прадана калі і па якой цане | Пасычана | На корм жывёле, якой і колькі |
| Жыта . . | 70 | — | 43 | 13 п. у лістападзе па 1 р. 5 к. | 5 | Змолата сьвіням 3 п., птушкам зярном 1/2 пуд. |
| Бульба . . | 230 | — | 30 | 80 п. у лістападзе па 30 кап. | — | — |

Так вядзецца запіс у абодвых спытках на працягу усяго году. У іх запісваецца па такому прыкладу ўсе продукты расьлін. У канцы году трэба падагульніць усё, але аб гэтым пагутарым у другі раз, калі пакажам прыклад запісу продуктаў жывёлагадоўлі.

У. Ш.

---

# Спружынаваньне.

Добра апрацаваць зямлю можна толькі тагды, калі будзе яна добра перамешана, і калі паветра будзе мець магчымасьць даходзіць да глыбейшых слаёў грунту, ці калі поле будзе добра спульхнена. Так праветраная, дзякуючы спульхненьню, зямля спрыяе разьвіцьцю карысных бактэрыяў, якія прычыняюцца да вытварэньня з складнікоў зямлі і паветра, адпаведных для ральлі пажывін.

Да спульхненьня і праветраньня зямлі раней ужывалі рожных драпачоў, груберэў, екстырпатараў і г. д., якія, як толькі зьявіліся спружыноўкі, хутка пачалі выходзіць з карыстаньня, што вельмі добра сьведчыць аб працы спружыновак. Паперэднія прылады, маючы штыўныя зубы, зямлю спульхнялі недасканальна, і працавалі негаспадарна, вымагаючы ў адношаньні да выкананай працы непрапарцыянальна шмат сілы пацяжнай. Штыўныя зубы, асабліва ў зямлі цяжкай, камяністай, часта ламаліся і поле не спульхнялі, пакідаючы паміж зубамі паясы зямлі не ўзварушанай. Спружыновыя зубы разрываюць зямлю шмат лягчэй, дасканальна яе спульхняюць, і дастаючы з глыбей-

шых слаёў паяскі зямлі, добра яе перамешваюць. Такім чынам спружыноўкамі можна апрацаваць поле шмат лягчэй і лепш, падняць значна ўраджаі, і то коштам меньшай пацяжнай сілы, працы, часу і рук.

Апрача таго спружыновыя зубы, не разрываючы сьметнякоў, а толькі выцягаючы іх на паверх і атрасаючы іх ад зямлі, дасканальна ачышчаюць поле. Значыць, спружыноўкі ўжываюцца да праветраньня, спульхненьня і мешаньня зямлі, чышчэньня яе ад сьметнякоў, і апрача таго таксама ўжываюцца да зьдзіраньня дзярня, канюшынішча, раўняваньня паверху, спульхненьня поля пасьля карэньплодаў (бульбы, буракоў), да закрыцьця пасеянага зярна, штучных гнаёў і г. д.

Вялікую службу выконваюць спружыноўкі вясною, перад пасевам яравых, калі ўжываюць іх для спульхненьня зямлі зьлежаўшайся праз зіму. У апошнія часы прыйшлі да пераканаця, што вясною наагул ня добра поле араць, але лепш яго толькі ўзварушыць спружыноўкаю, бо калі вясною поле ўзараць, то шмат вады выходзіць у паветрэ, і пасьля, калі вясна будзе сухая, то расьліна будзе дрэнна расьці, з прычыны недахвату вільгаці. Наагул трэба старацца, каб зямля пад ярыну была ужо прыгатована з восені, а вясною трэба яе толькі спульхніць спружыноўкаю.



Спружыновыя зубы робяцца з сталі і на канцы маюць лямешыкі, якія пасьля можна зьмяніць на новыя. Паводле канструкцыі можна падзяліць спружыноўкі на два тыпы:

1) **Спружыновыя культыватары** (на колах), якія, як мацней пабудаваныя, ужываюцца галоўным чынам на грунтах цяжкіх і да глыбейшага апрацаваньня зямлі.

2) **Спружыновыя бароны**, якія ўжываюцца больш на грунтах лягчэйшых. На грунтах цяжкіх лепш ужываць спружыновак з зубамі радчэйшымі, і наадварот, на грунтах лёгкіх спружыновак з зубамі часьцейшымі. У нас найбольш распаўсюджаны спружыновыя бароны і часта яны ўжываюцца і там, дзе лепш было-б ужываць спружыновы культыватар.



Вельмі часта нашы сяляне ня даюць сабе добра справы з таго, што на грунтах цяжкіх, пры глыбейшым запушчэньні зубоў спружыновае бароны, зубы яе ня толькі адгінаюцца і не дасягаюць да патрэбнае глыбіны, але што яшчэ горэй, лямешык траціць патрэбны нахіл, і замест пацінаць зямлю, толькі скрабае яе, даючы пры гэтым горшую працу, і вымагаючы большай сілы пацяжнай.

З усяго папярэдняга мы бачым, якое вялікае значэньне мае ў гаспадарцы спружыноўка, яна выконвае працу, як мы ўжо сказалі, шмат лепш і лягчэй ад усіх прыладаў з зубамі штыўнымі, і дзеля гэтага зусім зразумела чаму яна у хуткім часе была распаўсюджена па ўсім сьвеце і ўсунула з ужываньня прылады даўнейшыя.

Можна сьмела сказаць, што спружыноўкі стварылі новую эпоху ў галіне апрацаваньня глебы, і прычыніліся ў значнай меры да падняцьця інтэнсыўнасьці гаспадаркі.

Так як эру нашых дзядоў, маглі-б мы зусім слушна назваць эраю сахі, а часы нашых бацькоў—эраю плугу, так і сяньняшні дзень, у гэтым сэнсе, можна сьмела назваць эраю спружыновага культыватару.

Практыка паказала, што спружыноўка, у сэнсе дасканаласьці працы, уступае мейсца толькі плугу, але ў некаторых выпадках зьяўляецца яго паважным конкурентам.

**Інжынер Малевіч.**

# Пра лягчаньне (пакладаньне) жывёлы.

У кожнай гаспадарцы звычайна лягчаюць (пакладаюць) жарэбчыкаў, бугаёў, кноразаў, якіх маюць пакідаць для працы або гадаваць на зарэз.

Такім чынам, лягчаюць звычайна тых самцоў, якіх: 1) ня думаюць пакідаць на племя; 2) якіх пакідаюць для працы; 3) вельмі злых і неспакойных (якіх панароднаму называюць нутрацамі) і 4) тых, што маюць гадаваць на зарэз.

Бараноў пакладаюць дзеля таго, каб у іх была танчэйшая, раўнейшая і пякнейшая воўна. Сабак — каб былі злыя і пільнаваліся хаты а не цягаліся за сучкамі па-за дваром. Казлоў, каб давалі лепшую воўну і ня так сьмярдзелі. Апрача таго, лягчаюць яшчэ і пеўняў, бо выпакладаныя пеўні (каплуны) хутка нагульваюць сабе тлушч і мяса, і яно ў іх па смаку робіцца падобным да дзічыны і прадаецца даражэй.

Цяперака пачалі шмат пакладаць і самічак, пераважна сьвінак. Выпакладаныя сьвіньні вельмі хутка выгадоўваюцца і лепш адкармліваюцца. Кароў трэба выкладаць пад той час, калі яны даюць найбольш малака (пасьля трэцяга цяляці), і тады яны колькі гадоў ня зьменшваюць малака; а калі ў такое каровы з часам стане менш малака, тады яе гадуюць на зарэз і мяса ад выпакладаных кароў бывае вельмі смачнае і прадаецца па высокай цане. Вядома, што выпакладаныя куры, так зв. пулярды, маюць вельмі смачнае мяса і таксама прадаюцца даражэй.

У нас, на Беларусі, выкладаюць жывёлу рознымі способамі; пераважна ж з дапамогаю так зв. „ляшчотак" альбо адкручваюць ядры, перакручваючы тыя жылы, на якіх падвешаны яны, ці іншым способам расьціскаюць іх. За апошнія гады для лягчаньня пачалі ўжываць асобны струмант, які завецца дацкія ціскі, або „эмаскулятар".

Лягчаньне гэтым способам адбываецца скарэй усяго, праз $^1/_4$-$^1/_2$ гадзіны, жывёла не адчувае такіх цярпеньняў, як пры іншых способах, і ня бывае вялікага або і зусім ніякага крыватоку.

Дзеля таго, што ў нас шмат дзе яшчэ даручаюць пакладаць жывёлу канавалам-самавучкам, то гаспадары прынамсі павінны прытрымоўвацца вось такога парадку. Перад усім не павінна згаджацца пакладаць жывёл пад час, калі на вёсцы ці дзе навокала будуць заразлівыя хваробы, а асабліва—вуглянка, карбунак, слупняк або насацізна. Ня трэба лягчаць і падчас вялікае гарачыні, бо у сьпякоту жывёла вельмі зьнясіляецца праз духоту і яе занадта дратуе муха. Да таго-ж яшчэ ўлетку хутчэй у ране зьяўляецца гной, рана больш раздражняецца, досыць марудна гоіцца і

у ёй лёгка заводзяцца чэрві. Ад гэтага-ж вельмі часта прыкідваецца так зв. грыбавік сем'явага ходу. Наогул, ня варта лягчаць жывёлу хворую на якую-небудзь нутраную хваробу, бо тады яна і без таго бывае вельмі зьнясілена. Праз тое самае ня варта пакладаць і занадта старое жывёлы.

Найлеш пакладаць жарабкоў і бугаёў ззамаладу, пакуль ім ня мінула яшчэ двох гадоў. Аднак, коняй вельмі рана (да 1 году) пакладаць ня вярта, бо гэткія коні хоць і бываюць цыбатыя, але застаюцца маласільнымі, бо ў іх не разьвіваецца як трэба пярэдняя часта корпусу, і дзеля таго яны бюваюць найчасьцей вузкагрудыя і слабыя, а праз гэта вельмі хутка стамляюцца ў працы. Бугаёў-жа, так званых скараспелых гатункаў, можна пакладаць і раней двох гадоў. Кнораzaў, калі іх хочуць гадаваць на сала, пакладаюць, пакуль яны яшчэ маладыя,—паміж 2—6 месяцамі.

Найлепш рабіць пакладаньне вясною або ўвосень у цёплы ясны дзень. Перад тым, як пакладаць жывёлу, ня можна яе вельмі накармліваць, каб не папсавалася ў яе што-небудзь у сярэдзіне, падчас калі яе будуць класьці на зямлю. Наадварот, калі будуць пакладаць жарабка раніцою, то лепш зьвечара не даваць яму зусім нічога есьці.

Пад той час, калі пакладаюць жарабка, трэба пільнавацца, каб гэта рабілася як толькі мага чысьцей: каб струмант быў чысты, добра прамыты ў вары і ў рашчыне карболкі ці креоліны, каб жывёла была паложана на чыстую падсьпілку, каб рукі таго, хто будзе рэзаць, былі добра вымыты з мылам і ў карболцы аж па локці, каб ўсё прамежжа таксама было вымыта з мылам і зьліта карболькаю і г. д. Пакладаць варта дзе-небудзь у зацішку, каб у рану не наляцела пылу і ўсякага бруду.

Пасьля лягчаньня жывёлу трэба па магчымасьці менш турбаваць, пакуль зусім не загоіцца рана. Рану ад надрэзу трэба даглядаць, як звычайную рану, пры гэтым добра ўжываць мазь з крэоліны, каб мухі не садзіліся на рану. Калі ж рана доўга ня гоіцца або з яе пачне цячы гной, альбо калі будзе заўважана што-небудзь больш недакладнае, — то трэба зараз-жа зьвярнуцца да вэтэрынара за парадаю.

Сярод жывёлін-саміц найбольш практычнае значэньне мае толькі лягчаньне сьвінак, каб паскорыць адкорм іх. Найлепшая пара году для лягчаньня сьвінак гэта вясна і восень. Найлепшы ўзрост жывёлы — ад 6 тыдняў да 2 3 месяцаў,

Пеўня лягчаюць, каб надаць мясу далікатны смак і павялічыць адкорм. Легчаны певень (каплун) шмат есьць і вельмі скора. адкармліваецца; вагі ў ім заўсёды на $1^1/_2$-2 ф. болей, чымся ў нялегчаных. Найлепш лягчаць пеўняў на 3-4 месяцы, у красавіку і ў верасьні. І. С.

# Як садзіць квактуху, выбіраць пад яе яйкі і даглядаць за куранятамі.

Шмат хто думае, калі глядзець яйкі на сьвятло, дык можна даведацца з зародкам яно ці не, што выйдзе з яго: курачка ці пеўнік. Гэта адно глупства, якое трымаецца да гэтых часоў толькі таму, што калі чалавек угадае, — дык гэта памятаюць, не ўгадае — хутчэй запомняць. Наагул у адносінах яек заводзкіх курэй істнуе шмат забабонаў і прыкмет, якія ня маюць пад сабою ніякага грунту. Каб вышлі, напрыклад, калашматыя ці хахлатыя куры, трэба, падсыпаючы яйкі пад квактуху, апрануць на сябе лахманы; каб вышла больш курачак — квактуху трэба садзіць у пятніцу; каб добра вышлі кураняты, трэба падсыпаць няцотны лік яек і г. д.

Убачыць, ці з зародкам яйка, ці яно, як кажуць, ненайгранае—нельга. Але можна ведаць, як трымаць курэй, каб яйкі атрымаліся найграныя, з зародкам, і ад чаго трэба ўхіляцца, каб яйкі не атрымаліся ненайграныя.

Каб кураняты атрымаліся калашматыя, трэба браць яйкі, як мы ўжо даведаліся, ад калашматых-жа курэй; каб добра выходзілі курняты — трэба ведаць, якія належыць выбіраць для падсыпаньня яйкі і як іх хаваць да таго часу, калі яны трапяць пад квактуху.

Раней за ўсё трэба ведаць, што кураняты могуць выйсьці добра толькі з яек, якія ляжалі ня больш за тры дні, а чым менш — тым лепш. У больш старых яйках зародак адмірае.

Дзеля гэтага, каб не памыліцца, лепей за ўсё кожны дзень, сабраўшы зьнесеныя яйкі, напісаць на іх алаўком дзень і месяц, у якія яны зьнесены.

Памятаючы, што на племя павінны выбірацца яйкі толькі ад самых лепшых курэй, каб не памыліцца і тут, трэба, апрача дня, зазначаць ад якой курыцы кожнае яйка, або зазначаць яйкі лепшых курэй, ад якіх мы жадаем атрымаць племя.

Калі з якое-небудзь прычыны зазначаць яйкі нельга, а яйкі завадзкіх курэй і так адметны або вядомы, дык ўсётакі ёсьць просты спосаб даведацца ці сьвежыя яйкі ці не, ці яны ўжо паляжалі болей, чым можна, каб добрыя вышлі курняты.

Робяць гэта вось як: бяруць кавалак кардону ці тоўстае паперы, нават ценкую дошчачку, што знойдзецца, вялічынёю на 2-3 далані. Пасярэдзіне выразаюць дзірачку вялічынёю, як 3 капейкі. У вечар або ў дзень, сумысьня заходзяць у цёмнае памяшканьне, запальваюць лямпу і трымаюць перад ёю біблу гэтак, каб дзірачка вышла якраз супроць полымя, другою рукой бяруць яйка і шчыльна прыкладаюць яго да дзірачкі. Тады яйка ў сярэдзіне ўсё асьвеціцца і, паварачваючы яго, можна будзе ў тупым яго канцы зусім ясна бачыць цёмную частку — гэта пустата ў яйку або так званая „пуха“.

У сьвежым яйку пуха няпрыкметна. Цераз 2-3 дні яна робіцца, як срэбная дзесятка, цераз тыдзень — як дзьве капейкі, яшчэ цераз тыдзень — як 3 капейкі, а цераз месяц яна зойме амаль пятую частку яйка.

Гэткім чынам, разглядаючы яйкі на сьвятло цераз дзірачку ў біблe, можна выбраць самыя сьвежыя, і вось іх і трэба падсыпаць пад квактуху.

Калі знойдзецца большы кусок біблы, прыблізна ў паўаршына даўжынёю і каля паўтары чвэрці вышынёю, дык можна для разгледжваньня яек на сьвет зрабіць яшчэ больш зручную прыладу; гэткая прылада носіць назву „овоскоп“. Каб зрабіць азначаную прыладу, дзеляць біблу на тры роўныя часткі і ў месцах падзелу моцна згінаюць яе; потым адмерваюць, на якой вышыні ад дна лямпы знаходзіцца яе полымя, атрыманай мерай адмерваюць на сярэдняй частцы біблы і на гэтым месцы, як адзначана вышэй, вырэзваюць дзірачку. Цяпер прылада гатова.

Запальваюць лямпу і ставяць на стол або на лаву; біблу складаюць гэтак, каб атрымаць трыкутную трубку, якую і апранаюць на лямпу гэтак, каб апошняя апынулася ў сярэдзіне трубы. Тады полымя выйдзе якраз супроць дзірачкі і можна глядзець яйкі. Гэтая прылада больш зручна, чымся першая, бо яе ня трэба трымаць і абедзьве рукі застаюцца вольнымі. Зразумела, можна зрабіць трубку і круглую, як каму падабаецца, але трыкутная больш зручна, бо лёгка складаецца і меней займае месца.

Выбіраючы яйкі пад квактуху, трэба яшчэ глядзець, каб яны мелі правільную форму, былі ня шмат буйныя (з 2 жаўткамі) і ня вельмі дробныя.

Каб яйкі лепей захоўваліся, трымаць іх трэба у халаднаватым памешканьні, ня вельмі сухім, старацца не пераносіць іх з месца на месца і, асабліва, з памяшканьня ў памешканьне; яйкі трэба перасыпаць чыстымі зернятамі.

Калі яйкі брудныя, дык можна паволі абцерці іх анучкай, памочанай у цёплай вадзе.

Яйкі вельмі баяцца перавозкі, бо пры гэтым жаўток, які звычайна знаходзіцца ў асяродку яйка, пераходзіць да лушпайкі. З падобных яек ня чакай добрага вывадку, а дзеля гэтага яйкі завадзкіх курэй, набытыя ў другой гаспадарцы, нельга вясьці на калёсах, а лепей за ўсё асьцярожна прынясці ў руках. Гэткія яйкі нельга адразу ж падсыпаць пад квактуху,—трэба каб яны паляжалі дома дзень спакойна і тады ўжо садзіць на іх квактуху.

Апрача сьвяжыні яек, на вывадак мае моцны ўплыў узрост і здароўе пеўня і курэй і ўмовы іх утрыманьня.

Яйкі ад маладых курачак і пеўнікаў маюць слабыя зародкі, якія пад квактухай лёгка абміраюць у яйку. Лепш за ўсё браць яйкі ад курэй 2-3-х гадовых. Ад старых курэй яйкі бываюць з моцнымі зародкамі, калі толькі куры гэтыя не зашмат тлустыя, а гэта сустракаецца часта, бо куры пад старасьць лёгка тлусьцеюць. Тады яйкі іх будуць без зародка — не найграныя, або-ж куры зусім ня будуць нясьціся.

Ад курэй ці пеўняў хворых або слабых і яйкі будуць з слабымі зародкамі.

Калі-ж на пеўня выпадае зашмат курэй (больш за 15), дык ён не пасьпявае найграць іх, дзеля чаго яйкі атрымоўваюцца ненайграныя.

Калі куры ходзяць у маленькім панадворку, яны нудзяцца, марнуюцца, пеўні дрэнна найграваюць курэй і ад гэтага атрымоўваюцца яйкі ізноў такі ненайграныя.

Гняздо для квактухі належыць абкладаць чыстай саломай і ставіць у такім месцы, каб квактуху ніхто ня турбаваў. Ня трэба ставіць гняздо каля печы і наагул там, дзе горача і суха. Гэта вельмі шкодзіць яйкам, і могуць пазаморвацца кураняты, бо яйкавая плевачка, што знаходзіцца пад лушпайкай, можа высахнуць і ня будзе прапускаць паветра, дзякуючы чаму кураняці ня будзе чым дыхаць.

Пад квактуху кладуць 12-13 яек. Калі квактуха вялікая, можна палажыць і больш. Пад маладых квактух падкладаецца яек меней, бо яны ня здолеюць абагрэць усе яйкі.

Лепш за ўсё садзіць квактуху, калі толькі ўжо няма на двары марозаў, дзе-небудзь у хляве ці ў сенцах, дзе паветра чыстае і сьвежае, што неабходна для разьвіцця зародкаў.

Там, дзе сядзіць квахтуха, заўсёды належыць ставіць скрыначку з пяском ці попелам, у якім яна будзе купацца, каб збавіцца ад вошай: бяз гэтага вошы гэтак расплодзяцца, што будуць непекоіць курыцу, яна ня будзе сядзець спакойна і вывадак можа атрымацца дрэнны.

Раз у дзень трэба квактуху зьнімаць з гнязда, каб пакарміць—лепей за ўсё зернятамі, ці чарствым хлебам. Добра даваць і зелень: капуснага лісьця, бурачнага бацьвіньня або што знойдзецца. Калі зьявіцца трава, добра даваць і сьвежанькай травіцы.

У апошні дзень, калі кураняты пачнуць выходзіць, квактухі зьнімаць нельга.

Гэтак сама ніколі нельга памагаць кураняці выходзіць з яйка і зрываць лушпайку рукамі, бо можна вельмі лёгка пашкодзіць маленькім і далікатным крывяным жылкам і тады куранё абавязкава загіне.

Куранят, якія ўжо вышлі, можна пакідаць пад квактухай, калі яна старая, спрактыкаваная курыца, якая здолее з імі ўправіцца і не падушыць іх; або іх садзяць у рэшаце на ляжанку ці на печ, падаслаўшы пад іх старызну. Рэшата зьверху трэба прыкрыць чыстай анучкай, каб куранятам было цяплей.

У першы месяц куранятам даецца корм больш пажыўны, а дзеля гэтага й больш каштоўны (пшано, каша, яйкі, масла). Калі корм даецца на двары, дык яго могуць лёгка зьдзяўбсьці дарослыя куры. Каб гэтага ня здарылася, трэба зрабіць асобную простую прыладу. У якой небудзь скрыначцы без накрыўкі робяць дзьве ці чатыры сьценкі ў краткі з плянак, захоўваючы між апошнімі адлегласьці на $1^1/_2$-$1^3/_4$ вяршкі. Ежа для куранят ставіцца ўкармушцы, там, дзе яны ходзяць, і накрываецца гэтай скрынкай гэтак, каб дно было ўгару. Чераз вузкія прамежнасьці кураняты вольна праходзяць да кармушкі дзяўбуць сваю ежу; дарослыя-ж куры ўлезьці да іх ня могуць. Гэткім чынам, захоўваецца каштоўны куранячы корм.

В. Ф.

# Да ўсіх пчаляроў Заходняй Беларусі.

Пчалярства, такая даходная ў нас сельска-гаспадарчая галіна, ляжыць у Заходняй Беларусі ня чэпаным яшчэ адлогам. Мала хто з нашых пчаляроў рупіцца аб ім, мала хто стараецца падняць яго на належнюю вышыню, каб даць зразумець усім, што гэта ёсьць тая галіна сельскай гаспадаркі, якая пры належным даглядзе за ёю можа даць фахоўцу-пчаляру вялікую карысьць; можа даць вялікі матэр'яльны даход.

Занедбаласьць пчалярства ў нас ня ёсьць вынікам таго, што нашая Беларусь быццам мала прыдатная для пчалярства, як пад паглядам кліматычным, так і мёдадайнасьці нашай краіны. Наадварот, гэтыя варункі ў нас мо' лепш спрыяюць пчалярству чым у іншых мясцох, дзе яно ўжо шагнула ўперад. Уся віна заняпаду і старотыповасьці нашага пчалярства галоўна ляжыць у тым, што яно вядзецца ў нас паасобнымі адзінкамі, на сваю ўласную руку, нейкім у большасьці выпадкаў, дапатопным спосабам.

Нашы пчаляры амаль зусім ня карыстаюцца новымі здабыткамі, новымі вынахадамі ў гэтай галіне, не карыстаюцца поступам. Вось мае сабе якісьці гаспадар у сваім садку пару калодаў пчолак, мало рупіцца аб іх, пакінуўшы на ласку лёсу і чакае, каб там увосені неяк выдраць пару фунтаў мёду на лякарства, або на куцьцю. Аб неякім лепшым, рацыянальным спосабе гадаваньня і дагляду пчолак, аб паступовым пчалярстве, у шырокім маштабе, няма і мовы.

Праўда, знаходзяцца ўжо і ў нас адзінкі — пчаляры, якія прабуюць весьці пчалярства па новым, больш разумным мэтадам, якія ўжо карыстаюцца выключна рамавымі надстаўкавымі вульлямі, штучнаю вузою, але і гэтыя нашы пчаляры-перадавікі з браку ў нас арганізацыі, ізаляваныя ад сваіх слабейшых братоў-пчаляроў, дзеля чаго ня могуць мець уплыву на іх, ня могуць падзяліцца з калегамі-фахоўцамі сваімі дасягненьнямі і сваімі парадамі. Ужо даўно адчувалася патрэбнасьць у такой пчалярскай арганізацыі, якая-б клапацілася аб паступовым пчалярстве, якая-б скранула-з нярухомага пункту гэту галіну гаспадаркі ўперад. Выданьне спэцыяльных пчалярскіх часопісаў, брашур, кніжак, арганізацыя выставак пчалярства, закладаньне плянтацыяў мядовых расьлінаў, гадоўлі расавай пчалы і г. д. і г. д. трэба было б ўкласьці на кагосьці, хто-бы гэтым спэцыяльна заняўся.

Вось, прыймаючы гэта пад увагу і жадаючы прыйсьці на дапамогу нашаму краёваму пчалярству, ініцыятыўная група

пчаляроў-фахоўцаў Заходняй Беларусі паставіла сабе за заданьне стварыць гэтакую арганізацыю, якая-б магла задавальняць усе патрэбы нашых пчаляроў і падняць гэту галіну на належную вышыню.

З гэтаю мэтаю 24/1 1928 г. у Вільні адбыўся арганізацыйны сход ініцыятыўнае групы, на якой быў прыняты статут пад назовам: „Статут Беларускага Пчалярскага Каапэратыўнага Т-ва „Пчала“.

Статут ужо зацьверджаны Рэгістрацыйным Аддзелам Акруговага Суда ў Вільні; значыцца Т-ва „Пчала“ залегалізаванае.

Управа Т-ва распачала ужо працу прапануючы цэламу раду пчаляроў (каля 20-ці асоб) з усіх паветаў, прыступіць да рэгістрацыі пчаляроў жадаючых уступіць у сябры Т-ва, і зрабіла першыя захады, каб у найбліжэйшым часе адчыніць у Вільні крамку з пчалярскімі прыладамі.

Дык вось, браты-пчаляры, ад Вас цяпер залежыць разьвіцьцё гэтага Т-ва і яго карысная праца для нашае старонкі. Хай жа кожны пчаляр сьпяшыць запісацца ў сябры Т-ва Тады толькі можна будзе павясьці працу плянова, калі мы ўсе пчаляры злучымся ў адну моцную арганізацыю.

**Управа Т-ва „Пчала“.**

---

# Як ужываць мінэральныя угнаеньні (парашкі) і колькі трэба іх даваць на дзесяціну і пад якія расьліны.

## Чылійская сялітра.

Пад збожжы каласавыя чылійскую сялітру трэба класьці ад 6 да 10 пудоў на дзесяціну, пад бульбу і буракі ад 8 да 12 пудоў. Стручковыя і ўсялякія канюшыны, ці як іх яшчэ завуць бабовымі абыходзяцца бяз сялітры, але ўсё ж такі, пакуль яны маладзенькія і яшчэ бяз наростаў на карэнчыках — можна даць 2—3 пуды, што добра адбіваецца на далейшым росьце.

Сялітра памагае добра на ўсялякія землі, апроч надта мокрых, халодных і глееватых. Разам з хлеўным гноем сялітру — даваць ніколі ня трэба.

Пад азімыя пасевы пасыпаюць сялітру ўвосень і вясной, па палове назначанай порцыі.

Таксама і пад ярыну лепш класьці сялітру два разы: першы раз пакласьці як толькі расьлінкі узойдуць, а другі праз дзён 10 — 15. На карэньплоды другі раз кладуць перад абсыпаньнем іх.

Каб усюды роўна разсеяць сялітру, трэба грудкі яе паразьбіваць і перамешаць з сухім торфам, пілавіньнем ці з пяском. Нельга яе высяваць пасьля дажджу, на сырую зямлю ці па расе, бо тады сялітра, пападаючы на мокрыя лісты расьліны — нішчыць апошнія. Гэтай асабліваосьцю сялітры часта карыстаюцца пры барацьбе з дзікімі травамі. —сарнякамі.

## Кайніт.

Ужываюць на лёгкую, пяшчаную зямлю і на сухія сенажаці. На гліністай зямлі кайніт лепш замяніць паташовай (калійнай) сольлю.

Кайніт ужываецца найбольш пад сенажаці, а на пяшчаных землях пад азіміну і ярыну.

Пад сенажаці і азімыя пасевы з канюшынай уносяць кайніту ад 24—30 пудоў; пад ярыну, гарох, віку, лубін — 18—24 пуды на дзесяціну.

Кайніт трэба сеяць за 2—3 тыдні перад сяўбой, а пад ярыну — найлепш у восень. На сенажаці кайніт так-сама ўносяць увосень разам з тамасоўкай. Баранаваць яго трэба цяжкой бараной ці драпачом. **Мешаць яго з тамасоўкай можна толькі перад самаю сяўбою.**

## Паташовая соль.

Паташовая соль памагае таксама, як і кайніт, але яна мае ў $2^1/_2$ разы больш паташу (калія), дык перавозка яе танеі абыходзіцца, чым кайніту. Ужываюць яе на землях лёгкіх, пяшчаных, суглінках (крашаках) і на глінах, а побач — на сухіх сенажацях.

Соль паташовая дзеіць добра на ўсе аднагоднія расьліны, найлепш аплачваецца яна пад корэньплоды (бульба буракі) пад якія гэту соль можна ўжываць разам з хлеўным гноем, бо ў самым гнаі заўсёды недахоп паташу для добрага ўраджаю кораньплодаў.

На лёгкіх землях паташовую соль ужываюць пад ярыну, азіміны і бабовыя — 6—12 пуд; пад карэньплоды бяз гною —12 пуд., а на гнаі—8-12 пуд. на дзесяціну.

Соль рассяваюць за некалькі дзён перад сяўбой збожжа, ці да пасадкі бульбы. Каб рассеяць роўна, трэба перамяшаць, як і сялітру, з пяском. З тамасоўкай мяшаць телькі перад самай сяўбой, бо ў іншым выпадку мешаніна зьбіваецца ў камы.

## Супэрфасфат.

Супэрфасфат, які часта яшчэ сяляне завуць ў нас „крамны попел“, ужываецца больш на землях цяжэйшых. Ня варта яго сеяць на пясках, на сырых, халодных і кваных землях, дзе яго лепш зьмяніць тамасоўкай. Ужываецца пад усе расьліны, а найбольш — пэд азімыя.

Высеваюць на дзесяціну супэрфасфату:

у 13—14% — 12—24 пуд.
„ 17—19% — 9—12 „
„ 20 — 7—9 „

Пад збожжы каласавыя, ярыну з канюшынай і лубін—12-24 пуд., пад корэньплоды 12·18 п. на дзесяціну.

Супэрфасфат рассеваецца за некалькі дзён перад сяўбой збожжа, або і разам з зярнём і закрываецца бараной ці драпачом. Нельга мешаць з вапнай і тамасоўкай, а з другімі гнаямі — ня шкодзіць.

## Тамасоўка.

Найлепш тамасоўка надаецца на землях пяшчаных, на халодных, падзолах, дзе няма вапны. Надта добры ўплыў на ўраджай робіць яна на торфах, а таксама і сухіх сенажацях.

На вышэй паказаных землях тамасоўка ўжываецца пад усе расьліны.

Рассяваюць тамасоўку на дзесяціну ў залежнасьці ад таго, колькі у ёй ёсьць фосфарнага квасу: Калі 13-15%, дык пад азімыя і ярыну з канюшынай—24-30 пуд. Пры тамасоўцы-ж больш працэнтнай, порцыі гэтыя трэба паменшыць.

Высеваюць тамасоўку за 1-2 тыдні перад сяўбой збожжа, прыкрываючы спружынойкай, ці простай бараной на 4-5 цаляў глыбіні. Ня сеюць тамасоўкі разам з гноем, ці суперфасфатам. Перад самай сяўбой, каб яе не знасіў вецер, лепш тамасоўку трохі змачыць, або зьмешаць з сырым торфам, ці мокрай зямлёй.

Лежачы ў вільготным месцы, ці на зямлі, можа тамасоўка скамянець, як цэмант.

Канчаючы гутарку пра мінэральныя ўгнаеньні, асаблівую увагу нашых сялян зварачваем на месца, дзе купляць гэтыя парашкі. Купляць трэба толькі ў добрых складах, ці ў таварыствах, або ў гэтакіх купцоў, якіх усе добра ведаюць і вераць у іх сумленнасьць, бо ў прадажы ёсьць таксама і шмат парашкоў фальшаваных.

# Гутарка пра хлеўны гной і мінэральныя тукі.

Калі глеба праз некалькі гадоў не атрымоўвае гною, то перастае даваць ураджаі, ня гледзячы нават і на стараннае апрацаваньне, бо расьліны выцягваюць з зямлі патрэбныя ім спажывы і такім чынам аслабляюць яе. Хляўны гной мае ў сабе ўсе патрэбныя для расьліны спажывы і фактычна зьяўляецца ўгнаеньнем найлепшым. Кожны гаспадар мусіць прыкладаць усё сваё стараньне на тое, каб вывезьці на поле хляўнога гною што найбольш. Хляўны гной мае яшчэ тое вялікае значэньне, што, апрача патрэбных расьліне спажывін, абагачвае глебу маленькімі істотамі, якіх можна ўбачыць толькі праз адумыснае павялічваючае шкло, г. зв. бактэрыямі, роля якіх у глебе вельмі значная.

Толькі праз згніваньне расьлін, якое адбываецца дзейнасьцю гэтых бактэрыяў, з памёршых расьлін аслабаняюцца тыя матэрыі, якія былі спажыты імі ў часе свайго жыцьця з глебы і зварочваюцца зноў у глебу.

Гэтыя прадукты ідуць на пожыў новым расьлінам. Так, кожны год, дзякуючы дзейнасьці ў глебе міліярдаў бактэрыяў, вырастаюць новыя расьліны на трупах леташніх і сваімі трупамі ўзбагачваюць зямлю для расьлін будучага году.

Для свайго жыцьця бактэрыі патрабуюць удастатку сьвежага паветра, вады і цяпла. Таму яны вымагаюць, каб глеба заўсёды была пульхная. Калі зьверху глебы ўтвараецца скарынка ад дажджу, праз якую ўглыбіню ня можа прахадзіць паветра, тады гэтыя бактэрыі гінуць. Дзеля таго, што дзейнасьць бактэрыяў у глебе з часам слабее, трэба даваць з гноем зноў новых і новых бактэрыяў, і вось дзеля чаго галоўным чынам неабходна вывазіць на поле гной хоць адзін раз за чатыры гады і ня можна зусім бяз яго абыйсьціся, ужываючы толькі ўгнаеньня мінэральныя (штучныя, як у нас кажуць—парашкі).

Новыя навуковыя досьледы паказалі, што найлепш даваць гной хоць пакрыху, але кожны год.

**У цяперашнія часы толькі вялікія ўраджаі могуць аплаціць працу селяніна і найлепшы спосаб павялічыць ураджайнасьць глебы, гэта добра ўгнаіць яе, але гною звычайна бывае недахват, бо колькасьць скаціны значна паменшылася і таму прыходзіцца часта ўжываць угнаеньня мінэральныя. Хляўны гной усёжтакі заўсёды мае галоўнае значэньне, а мінэральныя тукі толькі дапамагаючае.**

**Мінэральныя тукі пачалі ў нас ужывацца ня так даў-**

на і цяпер яшчэ ёсьць у нас шмат такіх вёсак, дзе аб іх яшчэ нічога ня ведаюць. У першы раз найлепш спрабаваць дзейнасьць мінэральных тукаў на невялікім кавалачку зямлі і толькі пасьля ўжо, калі гэта спроба дасьць добрыя вынікі, ужываць іх у большым маштабе, бо розная глеба інакш рэагуе на розныя ўгнаеньні.

На некаторых грунтах вельмі добра ўплываюць фосфарныя тукі, тамасоўка і супэрфасфат, на іншых — калійныя солі і нарэшце салітра. Не магчыма даць параду ў кожным паасобным выпадку, трэба кожнаму гаспадару перакананацца перадусім самому, прытрымоўваючыся толькі агульных правілаў, выпрацаваных шляхам знаёмства хімічных асаблівасьцяў тукаў і досьледаў, прароблённых у навуковых лабараторыях і дасьледчых станцыях.

Усе штучныя ўгнаеньні ў залежнасьці ад спажывы, якую ў сабе маюць, можна падзяліць на 4 групы:

1) азотныя ўгнаеньні (чылійская і нарвэжская салітра, сернакіслы аміяк, кравяная мука і г. д.),

2) фосфарныя ўгнаеньні (супэрфасфат, тамасоўка, касьцяная мука і г. д.),

3) калійныя ўгнаеньні (каініт, калійныя солі, попел),

4) вапнавыя ўгнаеньні (вапна, мергель, гіпс).

Розныя расьліны за спажыву маюць розныя вымаганьні, так напрыклад караньплоды (бульба, буракі) вымагаюць, галоўным чынам, калійных угнаеньняў; хлебныя расьліны—фосфарных і азотных; бабовыя расьліны — фосфарных і калійных і асабліва шмат патрабуюць вапны. Аднак-жа, трэба прыняць пад увагу, што няма такое расьліны, якая б магла расьці без якое небудзь з гэтых чатырох спажывін, і калі якое з іх не хапае, то нават і лішак іншых не паможа, і глеба дасьць такі ўраджай, вышыня якога выявіцца тою спажывінаю, што знаходзіцца ў найменшай колькасьці.

З гэтага мы бачым, што на худой, выэкспляатаванай зямлі трэба ўжываць усе галоўныя чатыры групы ўгнаеньняў. У зямлю-ж больш менш пагноеную і выробленую трэба даваць, галоўным чынам, тыя ўгнаеньні, што знаходзяцца ў найменшай колькасьці, а гэта можа пазнаць кожны гаспадар, калі ўперад на малым кавалку зямлі сам зробіць досьлед.

Кожны добры гаспадар мусіць быць таксама і дасьледчыкам.

**Інж. Малевіч.**

# Кампост.

## Пад увагу нашых гаспадыняў.

Хоць памаленьку, але ўсё-ж вясна падходзіць і ўжо нашыя вясковыя гаспадыні сярод штодзеннай работы не раз задумаюцца аб тым, як гэта яны будуць засяваць гароды ды і як агародніна сёлета ўдасцца.

Ведаюць яны добра, што спадзявацца ўраджаю агародніны можна толькі тады, калі зямля будзе добра вырабляная і ўгноеная. А вось з гноем уселяк бывае.,. Наагул нашыя дробныя гаспадаркі мала яго маюць ды і то гаспадар стараецца вывясьці яго якнайбольш у поле, ды яшчэ і „парашкоў“ пад збожжа падсыпе, а на гарод абы крышку.

Вось і бяда і клопат.

А гэтага клопату зможа пазбавіцца вельмі лёгка кожная гаспадыня, якая пастараецца ўласнымі сіламі здабыць угнаеньне для свайго гароду.

А гэта вось як:

Недзе ў куточку за хляўчыкамі трэба выкапаць яму прастакутную, глыбіні на ½ метра. Вялічыня залежная ад мейсца, якое дзеля гэтай мэты назначым і туды, у гэтую яму зсыпаць і зьліваць усе, самыя разнародныя астачы: сьмяцьцё з хаты і панадворку, зельле выпалатае з гароду, попял з печы, ваду брудную, луг ад бялізны і г. д.

Зьбіраючы акуратна ўсе чыста астачы з хаты, панадворку ды гароду, за лета набяром іх ня толькі поўную яму але і цэлы ўзгорак над ёю, ды і ня будзе ўжо гэта сухое сьмяцьцё, але ад паліваньня ўселякімі жыжкамі вытварыцца ўжо меньш больш перагніўшая маса.

Трэба яе цяпер віламі перавярнуць так, каб тое, што ляжыць пад сподам выняць на верх, а верхні слой, каб апынуўся пад сподам. Гэтак варочаючы вылажыць усю масу на бок каля ямы, злажыць у прастакутнік, крыху ў свaей верхняй часьці вузейшы, ды ізноў паліваць яго featured рознымі жыжкамі, ня сыплючы ўжо ніякага сьмяцьця, якое нанова пачынаем зсыпаць да ямы.

Тая куча перагніўшага сьмяцьця, гэтак званы „кампост“, за восень перагніе яшчэ ляпей і вясной можа быць паложаны на гарод, як гной.

Каб меў „кампост“ лепшы, больш перагніўшы, лепей яго ўжываць не ў год пасьля таго, як пачалі яго рабіць, а праз два гады.

Вельмі добра перад вывазам яго на гарод перакінуць яго праз рэдкую драцяную сетку — перасеяць — тагды ўсе нязгніўшыя часткі астаюцца, а на гарод кладзём яго ў форме тлустай гнойнай зямлі.

Адно толькі трэба сьцерагчыся, каб ня кідаць на кучы кампосту пыраю і ня сыпаць насеньня сарнякоў, бо як адно так і другое ня перагніе і дастаўшыся на гарод страшэнна яго засьмеціць.

Праз некалькі гадоў гэтакай працы гарод будзе мець адзін чарназём, а якія будзе даваць ураджаі — лёгка дагадацца.

Выраб „кампосту“ мае яшчэ другое пабочнае значэньне: прымушае ён гаспадыню ўсё сьмяцьцё зсыпаць у адно месца і туды-ж выліваць памыі і гэтакім чынам захоўваць панадворак, а часта і вуліцу каля хаты ад засьмечываньня.

Апроч таго стараньне сабраць як найбольш матэр'ялу для кампосту заахвочывае да акуратнага вымятаньня хаты, каморы і панадворку.

**Л. Война**

---

# Як даглядаць паросных сьвіньней і парасят.

Сьвіньні палепшаных пародаў паросяцца два разы на год. Найлепшы час для апаросу гэта студзень і люты — першы раз, а другі — ў ліпні і жніўні. Дзеля гэтага матку пускаюць да кнура першы раз ў канцы верасьня і ў кастрычніку, а другі раз — у красавіку. Звычайна сьвіньня носіць 115-118 дзён, або, як кажуць, „3 месяцы, 3 нядзелі і 3 дні“.

Маладых сьвінак трэба пускаць да кнура не раней, як гадавога ўзросту. Калі пускаць раней, як цераз год, тады яны затрымоўваюцца ў сваём разьвіцьці, не дасягаюць поўнага ўзросту і выходзяць дробнымі маткамі.

У корме паросная сьвіньні павінна быць збожжа або макуха. Улетку вельмі карысна даваць паросная сьвіньні зялёную люцэрну, а зімою — параную сечку з люцэрнавага сена. Да корму карысна дадаваць патроху крэйды і дробнастоўчаных, перапаленых касьцей. Ня трэба толькі закормліваць матку, бо ад сытых матак звычайна выходзяць слабыя, дробныя парасяты.

Усіх паросных матак можна трымаць разам у адным

агульным сьвінарніку. Але перад апаросам, тыдні за 3 да радоў, матку трэба аддзяляць ад іншых сьвіньней і захоўваць яе ад усяго, што можа пашкодзіць ёй самой, або парасятам.

За колькі дзён да апаросу цыцкі ў сьвіньні набракаюць і адвісаюць, а за 12-20 гадзін да радоў зьяўляецца і малодзіва ў сасках. Калі пачне выдойвацца малодзіва, сьвіньню гаспадар павінен пачаць сьцерагчы, бо гэта знача, што ўжо блізка рады. Трэба прыгатаваць чыстую, сухую подсьцілку, лепш з дробнай саломы, падбаць аб цяпле і наагул забясьпечыць радзісе спакой і цішыню.

Калі матка пачынае парасіцца, пры ёй увесь час павінен знаходзіцца чалавек, адзін днём, а другі ноччу. Недалеткам гэту справы ня варта даваряць. Пры апаросе часамі трэба бывае памагчы адсунуць месца, пасадзіць парасятак першы раз да цыцкі і інш., а таксама даглядаць, каб сьвіньня не падушыла парасятак кладучыся.

З другога боку зараз пасьля апаросу, трэба ўважліва сачыць за вымем маткі. каб яно не загрубела, бо перабалеўшае вымя ня будзе даваць многа малака А для гэтага ня можна першыя дні шмат карміць сьвіньню. У першы дзень трэба даць толькі пойла, ды таго ня многа, і толькі на другі або на трэці дзень да пойла дадаюць патроху высевак. Калі вымя не шмат перапаўняецца малаком і парасяты яго добра высмактваюць, то высевак з кожным днём прыбаўляюць усё болей. Праз 5-6 дзён небясьпека загрубеньня вымя зьнікае, парасяты добра яго разьмінаюць і высмактваюць, і з гэтага моманту матку пачынаюць карміць як мага ляпей і сыцей, каб яна магла выробляць досыць малака.

Як толькі сьвіньня пачне парасіцца, неабходна парасят падбіраць і, перавязаўшы ў іх пупавіну, адсаджваць у асобную скрынку, каб яны дні 2-3 пасядзелі ў ёй, пакуль ня зробяцца больш дужэйшымі. Пад матку падпускаюць парасят толькі для ссаньня, не радзей, як праз кожныя 2 гадзіны днём і ноччу. Гэта трошкі клапатліва, але больш бясьпечна, што матка ня прыдушыць і не пакалечыць сваіх парасят.

Звычайна матка гадуе 6-8 парасят, а маладыя, па другому году — ня больш 6 парасят. Але часамі, калі парасят бывае 12-14 штук і нават балей, то некалькі з іх бываюць вельмі дробнымі і рэдка выжываюць. Ляпей гэтую лішку пасадзіць, калі можна, пад другую сьвіньню, астаўшы ня больш 10 парасят пад маткаю, яшчэ ляпей — ня больш 8 парасят.

Кожнае парасё сьсе заўсягды адну і тую цыцку. Для гэтага вельмі важна, каб яны адпаведна свайму стану разабралі цыцкі. Пярэднія цыцкі — больш млечныя і іх трэба аддаць больш слабейшым; для гэтага першыя дні трэба прытрымліваць парасят пры цыцках, каб яны не перабягалі і не бунтавалі. Праз 2-3 дні парасяты прызвычаюцца да сваіх цыцак і ўтвараецца сталы парадак.

З часам, праз 2-3 тыдні, калі будзе відаць, што малака ў цыцках мала і што парасяты бязперастанку прыкладаюцца да маткі ссаць і цярэбяць пустыя цыцкі, тады трэба пачынаць патроху падкормліваць парасят цельным кароўім малаком. Для гэтага ў адным кутку хлява трэба зрабіць краты такой вялічыні, каб праз іх маглі праходзіць парасяты, а матка не магла прасунуць туды сваю галаву. За краты ставяць карытца і наліваюць туды кожны раз сьвежае малако. Карытца трэба заўсёды мыць і трымаць яго чыстым. Калі парасяты ня п'юць адразу, іх трэба падсадзіць да карытца і абмачыць лычыкі ў малако, тады яны скора зразумеюць, у чым справа, і п'юць самі. Каб атрымаць буйных парасят, іх трымаюць пад маткамі па 6-8 тыдняў, але гэта дрэнна ўплывае на матак,— вельмі сушыць іх.

З чацьвертага тыдня парасяты пачынаюць брацца за цьвёрды корм, залазяць у карыта і пачынаюць патроху есьці разам з маткаю. Цяпер на 5 тыдні, парасят звычайна адсаджваюць ад матак; матак выганяюць у асобны хлеў і праз дзень падпускаюць да парасят, каб ссалі малако, а праз 3 дні й зусім перастаюць падпускаць. Зразумела, што адсаджаным парасятам даюць усё болей і болей корму, малымі порцыямі, але часта. Перш кормяць цераз кожныя дзьве гадзіні, урэшце, калі ім будзе каля двух месяцаў, даюць корм 4-5 разоў на дзень.

Каб парасяты шыбка расьлі і добра разьвіваліся, неабходна даваць ім першыя месяцы пасьля адсадкі малочныя астачы:— сабранае малако і сьвежую сыраватку. **Ніякі іншы корм ня можа замяніць малочных астачаў**, і парасяты выгадаваныя бяз малочных астачаў, заўсёды адстаюць ростам ад тых, якія атрымліваюць малочныя астачы.

Найлепшы зярнёвы корм для парасят — гэта ячмэнь. Даюць яго буйна размолатым. А калі ячменю няма, то даюць размол іншых зёран, найбольш другіх гатункаў, напрыклад: проса, грэчкі, аўса, жыта і высевак. Да хлебнага цеста можна дадаваць патроху варанае бульбы і макухі. У летнюю пару, калі парасяты ня ходзяць на пашу, трэба даваць пакрысе маладое травы. Наагул, парасятам трэба даваць як мага разнастойны корм, каб ён ім ня прыядаўся, і каб парасяты заўсёды кідаліся да корму з вялікім апэтытам.

**Нельга даваць парасятам ніякага сапсутага або запля-**

сьнелага ці згарчэўшага корму. Корму трэба задаваць толькі, каб парасяты разам маглі ўсё зьесьці і каб нічога не аставалася ў карытах і там ня гніло і не псавалася. Сапсуты корм можа выклікаць ў парасят вольнасьць і справа можа дрэнна кончыцца.

Такі ўзмоцнены адкорм парасят павінен трываць да 3-4 месяцаў. Парасяты на чацьвертым месяцы залічаюцца да надворных сьвіньней і кормяцца так, каб толькі расьлі, але ня тлусьцелі.

Таксама вельмі карысна мыць парасят, прынамсі адзін раз у тыдзень, з мылам або лугам. Улетку мыюць часьцей, а ўзімку радзей, зьвяртаючы ўвагу на тое, каб не прастудзіць парасё.

Звычайна лічаць, што свіньня самая неахайная жывёла. Але гэта памылка. Наадварот, сьвіньня самая чыстая з усіх свойскіх жывёл. Тое, што яна качаецца ў гразі, якраз і даводзіць, што яна любіць і шукае чыстату. Сьвіньня мыецца гразьзю, як мы мылам. Бо што такое гразь? Гэта разьведзеная ў вадзе зямля або гліна, якая зьмяшчае ў сабе шмат лугу, і гэткаю гразьзю мыюцца ня толькі сьвіньні, але і людзі з вялікай карысьцю для сябе (пры пэўных хваробах). Адна вада сьцякае з цела, а пад клейкаю зямляною гразьзю добра адмакае і сапраўдная гразь, прыстаўшая да скуры свіньні. Пачне высыхаць на сьвіньні гразь, усіх вошай пазклейвае, а высахне зусім — вошы ў гэтай гразі, як замураваныя. Пойдзе сьвіньня скрабціся аб слуп, дзерава,— сухая гразь з яе лёгка зьляціць, а з ёю пазьлязаюць вошы і ўсякая іншая гразь, што адстане ад скуры.

Дзеля таго, што сьвіньня любіць скрабацца, вельмі карысна ўладжваць гэткую для іх скрабалку: бервяно ўмацоўваюць на двух кароткіх слупкох так, каб адзін канец быў крышку вышэй і, такім чынам, аб яго маглі сьвіньні скрабаць ня толькі свае бакі, але і сьпіны, і да таго сьвіньні рознага ўзросту.

Таксама гаспадару трэба ведаць, калі трэба пакладаць, чысьціць парасят, бо ад гэтага залежаць вынікі пры адкорме сьвіней. Чым больш маладымі пакладаюцца кнуркі, тым яны хутчэй пачынаюць тлусьцець і даюць больш сальную сьвініну. З другога боку, чым пазьней пакладаюцца кнуркі, каля 4-6 месяцаў, тым большымі яны вырастаюць і больш мяснымі, а дзеля гэтага даюць большыя шынкі і вельмі тлустыя. З гэтае прычыны, калі гаспадар хоча атрымаць больш тлустых сьвіней, пакладаць кнуркоў трэба раней, хоць-бы і ў часе адсадкі ад маткі, а калі ён хоча атрымаць добрую вяндліннную сьвініну, павінен пакладаць кнуркоў пазьней.

І. С.

Агр. П. Дубрівний.

# Белы баркун — новая кармавая расьліна.

Белы баркўн — гэта тая расьліна, якая расьце ў нас у дзікім стане. Яна часта засьмечвае наша збожжа і наш гаспадар вядзе з ею барацьбу, як з дакучлівай і шкоднай расьлінай.

У Амэрыцы на гэтую дзікую расьліну зьвярнулі ўвагу аграномы і перадавыя гаспадары.

Тут пачыняюць яе ўзгадоўваць, дзеля выкарыстаньня яе на корм, ці то як сена, ці то як сьвежы, зялёны корм, ці нарэшце, як пашу для скаціны.

Там ужо выведзены аднагадовыя пароды баркуна, якія вядомы пад назовам „губам".

Белы баркун—расьліна вытрывалая на сушу і не баіцца марозу, а таму і культура яго вельмі пашырана ў сухіх раёнах Амэрыкі, з пякучым летам і мала-сьнежнай зімой.

Цяпер над пазнаньнем белага баркуна працуе дасьледчая станцыя пры сельска-гаспадарчым коледжу (вышэйшай гаспадарчай школе) ў Паўночным штаце Дакота. Вывучваюць тут розныя пароды баркуна, спосабы прыгатаваньня яго на сена, сілос і на насеньне, прабуюць выкарыстаць яго пад пашу. Вывучваюць яго спажыўную якасьць і пераатраўліваньне і ўсваіваньне спажыуных дзейнікаў баркуна жывёліным арганізмам.

Спажыўнасьць баркуна можна бачыць з дадзеных дасьледчай станцыі ў Амэрыцы.

Страўных дзейнікаў у 10 фунтах баркуновага сена.

| | Сухіх дзейнікаў | Сырога бялка | Вуглеводаў | Тлуст. |
|---|---|---|---|---|
| Баркун — — — | 91,4% | 10,9 | 38,2 | 0,7 |
| Люцэрна — — — | 91,4% | 10,6 | 39,0 | 0,9 |
| Чырвоная кан. — | 87,1% | 7,6 | 39,3 | 1,8 |
| Костэр (Bromos) — | 81,5% | 5,0 | 41,2 | 0,9 |
| Кукуруза — — — | 90,0% | 3,0 | 42,8 | 1,2 |

З гэтых дадзеных бачым што баркун па складу сваіх аджыўляючых дзейнікаў, блізка падходзіць да люцэрны і чырвонай канюшыны.

Дасьледы паказалі, што калі баркун пачынае пасьпеваць, то колькасьць бялковых дзейнікаў раптам у ім зьменшваецца, а ўзрастаецца колькасьць клетчаткі (цэлюлёза, клетчатка. мала аджыўляючы дзейнік). Дзеля гэтага, каб атрымаць ў баркунавым сене ці ў сырым корме больш аджыўляючых і страўных дзейнікаў, яго трэба касіць своечасна, калі баркун яшчэ зялёны.

Белы баркун вельмі цэнная расьліна пад пашу. Калі яго пасеяць вясной, то восеньню ўжо можна пасьвіць жывёлу. На другі год трэба яго якнайбольш выпасьвіць, бо тагды расьліна будзе пускаць новыя храсткі, ў якіх найбольш аджыўляючых і страўных дзейнікаў.

Пры выпасе варта пакінуць асобныя кусты баркуна, каб ён зацьвіў і даваў сьпелае насеньне, гэтае насеньне будзе звальвацца на зямле і гэтак баркун будзе што году аднаўляцца. Пры гэтакіх варунках удалося ўтрымаць баркун на адным месцы да 10 гадоў, недасяваючы яго.

Поле, засеянае белым баркунам, можа быць надзвычайна добрай пашай дзеля сьвіней, асабліва, калі да яго пасеяна трохі аўса.

Адпас сьвіней у першым годзе можа пачацца тады, калі расьліна мае 20—25 сантымэтраў вышыні.

Але гэты выпас трэба хутка прыпыніць, каб даць магчымасьць расьліне акрэпнуць на зіму.

На другі год можна пасьвіць з ранняй вясны і да позьняй восені.

Найлепшай пашай для сьвіней ёсьць люцэрнавая паша, але поруч з ею можна завясьці і баркуновую.

Апрача гэтага баркуновая паша вельмі добрая для выпасу мясное і малочнае жывёлы, асабліва ў гарачае і сухое лета. Але белы баркун мае гаркаваты смак і няпрыемны пах, калі ён састарэе, і няпрывычная жывёла ня можа тады яго есьці.

Вось, каб абмінуць гэта, трэба прывучаць да яго жывёлу калі ён яшчэ малады і гаркі яго смак мала чутны, тады жывёла звыкаецца і есьць яго з ахвотаю.

Але жывёла, пры адпасе на баркуновай пашы, патрабуе дзеля лепшага ператураўліваньня грубой пашы, як сена ці салома, якую неабходна мець блізка пашы.

Пры пасеньні жывёлы на люцэрне, часта здараецца здуцьцё жывата, а пры пасеньні на баркуновай пашы, гэта бывае вельмі рэдка.

Заўважана, што малочныя каровы, якія пасуцца на баркунавай пашы, даюць малако з спэцыфічным запахам і смакам, асабліва-ж вясною. Але гэтага можна ўнікнуць, калі прыганяць карову з пашы за 1 — 2 гадзіны да даеньня.

Вельмі добрай можа быць баркуновая паша і для авечак. Але авечкам ня трэба даваць моцна выгрызыць пашу, асабліва-ж ў першы год росту.

Вельмі карысьнай можа быць баркун і пры разьвядзеньні пашы для птушак. *)

З гэтага кароценькага агляду ўжо можна бачыць, якую вялікую карысьць можа даць баркун у гаспадарцы. У часе вайны жывёлаводства ў нас моцна ўпала і гаспадарам амаль ня ўсюды бракуе добрае пашы для рагатае жывёлы, сьвіней і авечак.

Няхай-жа нашы сяляне папрабуюць завясьці ў сябе культуру белага баркуна. Тым больш, што баркун расьліна ня вымагаючая добрага грунту. Баркун добра расьце на пясковых і супясковых грунтах, ня баіцца пасухі і марозаў.

Дзякуючы гэтаму, мала прыгодную, яловую зямлю можна добра выкарыстаць з дапамогай баркуна. А гэта дасьць новыя прыбыткі ня толькі аднаму гаспадару, але і ўсяму нашаму краю.

Укр. часап. „Сільскій Світ“.

# Некалькі слоў аб сэпаратарах.

Мала ў якой гаспадарцы ў нас зварачваецца належная ўвага на малако, дзеля гэтага мы і хацелі-б тут аб гэтым крыху пагутарыць.

Часьць малака звычайна спажывае сямья гаспадара, а з таго, што астаецца гаспадыня робіць масла, тварог і сыры. Калі ў гаспадарцы шмат кароў, і атрымоўваецца шмат малака, колькі-ж гэта гаспадыні клопату, пакуль яна пераробіць малако на масла.

Звычайна, малако ў нас зьліваецца ў гаршкі ці гладышы, якія ставяцца ў халодны склеп, лядоўню, ці іншае якое сьцюдзёнае мейсца, каб ня ськісла. Праз дзень — два з малака зьбіраюць сьмятану акуратна да апошняе каплі, астаецца зьбіранае малако. Гаспадыня думае, што ў ім ужо малочнай тлустасьці зусім няма, аднак гэта ня зусім так

Навуковыя спробы з такім зьбіраным малаком, паказалі, што ў ім астаецца яшчэ аж каля 1% малочнай тлустасьці або у 39 літрах зьбіранага малака астаецца цэлы фунт малочнай тлустасьці, што выходзіць блізка каля $1^1/_4$ фунт.

*) Трэба яшчэ ўспомніць, што баркун пакінуты на насеньне дае добры мёдазбор пчолам, якія не абмінаюць кветак баркуна аж да позьняй восені, бо ён мае тую ўласнасьць, што аж да марозаў выпускае новыяursкі і кветкі, маючы на сабе адначасна і сьпелае насеньне.

(Прып. перакладчыка).

(паўкілаграму) масла. Дык вось якое зьбіранае малако перарабляецца на тварог, або спажываецца жывёлай (аддаецца цялятам, сьвіням і г. д.), а гаспадыня траціць на гэтым кожны дзень па некалькі залатовак.

Гэту страту лёгка вяртае машына, якая завецца сэпаратарам ці цэнтрагонкаю, і служыць да хуткага і акуратнага аддзяленьня сьмятаны ад малака.

Цёплае, сьвежа-падоянае малако ўліваецца ў сэпаратар і машына, пушчаная ў рух, за некалькі мінут працы дзеліць паасобна сьмятанку і запраўды постнае малако, у якім астаецца можэ толькі адна дзясатая процанту малочнай тлустасьці, а то і таго меньш.

Найлепш сэпаратар аддзяляе сьмятану, калі малако сагрэта найменьш на 30°С., значыць прыблізна мае тэмпэратуру малака толькі што падоенага, у іншым выпадку трэба малако на такую тэмпэратуру падагрэць. Адначасна малако і чысьціцца, бо рожны бруд і хваробныя бактэрыі (напр. сухотаў) астаюцца ў машыні. Шмат гаспадароў, што маюць нават і па 10 кароў, але ня маюць сэпаратару, масла зусім не прадаюць, або прадаюць толькі якіх 20—30 кілаграмаў у год, а гэта вось дзеля чаго.

Зімою кароў кормяць малапажыўным кормам: саломаю, трасянкаю і г.д. ды і целяцца каровы звычайна на вясну— і вось дзеля гэтага зімою амаль-што зусім не даюць малака. Калі на вясну, пасьля ацёлу, малака і прыбудзе, то гаспадары ня маюць часу займацца ім. Гэтак праходзіць усё лета і восень, а займацца малаком няма часу. І з таго малака, што праз лета надойвалася, не астаецца нічога, часьць малака пашла на ежу а з рэшты гаспадыня зьбіла прыхваткамі некалькі кілёграмаў масла, — вось на табе, — увесь даход з кароў.

А аднак-жа каровы павінны даваць даход! Толькі гаспадару трэба знайсьці спосаб, якім бы можна было перарабіць на масла ўвесь летні ўдой не патраціўшы на гэта шмат часу?

Памагчы ў гэтым можа яму толькі сэпаратар. Аддзяляючы што дзень сьмятану сэпаратарам—на што трэба толькі некалькі мінут часу—гаспадар атрымае больш сьмятаны, у якой будзе і больш малочнай тлустасьці. Зьбіўшы гэту сьмятанку гаспадар пераканаецца, што дабыў масла больш, як даўней, пры гэтым масла на смак і трываласьць будзе лепшае, якое, такім чынам, можна заўсёды і прадаць даражэй. Хто ня купляе сэпаратару, баючыся вялікіх расходаў, мусіць памятаваць, што рожніца атрыманай з малака сьмятаны, а значыць пасьля і масла, пакрывае звычайна ўжо за некалькі месяцаў расходы па куплі сэпаратару.

Каб гаспадар, ня маючы цэнтрагонкі хацеў перакканацца, колькі тлустасьці астаецца ў зьбіраным малацэ, пры самым акуратным зьбіраньні сьмятаны рукою, павінен тое малако прапусьціць праз цэнтрагонку і атрыманую сьмятану перарабіць на масла. Асабліва ў цяперашнія цяжкія часы, калі гаспадарка не дае павіннага зыску, з прычыну слабое агранамічнае помачы і наагул цяжкіх умоваў жыцьця, павінны гаспадары зьвярнуць найбольшую увагу на кароў, якія значна могуць палепшыць стан гаспадаркі.

Кожны гаспадар, маючы нават 2-3 каровы ўжо павінен мець малы сэпаратар, каб уяць ўсё больш каштоўнае з малака, выробляючы з цэнтрагоннае сьмятаны масла і прадаючы яго па лепшай, як дагэтуль цане.

А калі гаспадар перакканаецца, колькі карова прыносіць даходу, будзе лепш яе даглядаць, лепш карміць, пачне сеяць больш бабовых расьлін і садзіць карэньплодаў (бульбы, буракоў, моркаві) і за ўсё гэта кароўка яму старэнна заплаціць малаком.

**А. М.**

Паводле нашых поглядаў шмат карысьнейшымі былі-б у вёсках каапэратыўныя малачарні, якія маючы сэпаратары ды маслабойкі, перараблялі-б на масло малако ўсіх гаспадароў. Аўтар кажа, што аддзяліць сьмятану ад малака сэпаратарам гэта справа некалькіх мінут, гэта праўда, але ўтрыманьне сэпаратара ў належнай чыстаце вымагае шмат часу і вялікай акуратнасьці.

(Прыпісак рэдакцыі).

## Арышт рэдактара „Сахі“, грам. Павалковіча.

Рэдакцыя часопісі з вялікім сумам павядамляе аб арышце рэдактара „Сахі“ грамадзяніна Павалковіча, які знаходзіцца ў турме на Лукішках. Пры вобыску нічога кампрамітуючага знойдзена ня было.

З прычыны арышту грам. Павалковіча „Саха“ не магла выйсьці ў вызначаны час. Рэдакцыя прымае ўсе меры, каб надалей „Саха“ выходзіла нармальна.

Рэдактар-выдавец: А. УЛАСАЎ.

Друк. Я. Лэвіна Вільня, Нямецкая 22.

На 1928 год

**Прадаужаецца Падпіска на 1928 г. на сельска-гаспадарчую часопіс**

На 1928 год

# „САХА“

**„Саха“** знаёмячы нашага селяніна ў навукова-папулярнай форме з лепшымі спосабамі апрацоўкі ральлі, ставіць мэтай дабрабыт дробнага гаспадара, які мог-бы бяз значных затрат падняць прадукцыйнасьць сваёй працы.

**„Саха“** будзе выхадзіць адзін раз ў месяц.

**„Саха“** будзе даваць падпішчыкам сельска-гаспадарчыя, юрыдычныя і іншыя парады бязплатна.

**Гадавыя падпішчыкі атрымаюць дарма пробы насеньня выдатных расьлін і заводзкага збожжа**

**Падпісная плата:**

На год . . . . . 3 зл. —

На паўгоду . . . 1 зл. 75 гр.

**1 нумар — 30 гр.**

**—) Дарма „САХА“ высылацца ня будзе. (—**

Для старых і акуратна высылаючых плату падпішчыкаў, якія адразу ня могуць выслаць грошы, часапісь будзе высылацца тады, калі яны вышлюць заяву аб высылцы ім „Саху“ і абазначаць тэрмін высылкі платы.

Тыя падпішчыкі, якія вышлюць плату аднаразова на 5 нумароў — шосты дастаюць дарма.

**Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі:**

Вільня, вул. Сьв. Анны № 2, кв. 3